*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



**2017, № 7(17). Ліпень**

## Расстрэл у Якімавічах “начальніка смерці”

10 ліпеня 1944 года ў наш горад увайшла Чырвоная Армія, якая вызваліла яго ад нямецкіх акупантаў. Не ўсе савецкія партызаны пра гэта аператыўна даведаліся, працягвалі знаходзіцца ў лясах. У той дзень у вёсцы Якімавічы Слонімскага раёна спынілася савецкае армейскае падраздзяленне. Людзі, якія перажылі тры жахлівыя гады акупацыі, віталі вайскоўцаў, частавалі іх. Калі раптоўна з’явіўся ўзброены чалавек з лесу, вяскоўцы паскардзіліся на яго франтавікам. Мужчыну раззброілі і затрымалі, пасля быў кароткі суд.



Командиру бригады им. „Рокоссовского“

от ком. отряда им. „Пономаренко“ 14/VII-44 г. 167

Рапорт.

Тов. комбриг. довожу до Вашего сведения о том, что 10/VII-44 г. в д. Якимовичи был расстрелян нач. О.О. тов. Азанович Владимир, одним командиром батарей передовых частей Красной Армии, по причине не известной мне.

11/VII-44 г. боец 3й роты Жидель Петр без разрешения командования отряда, ушел глушить рыбу в р. Иссу и подорвался гранатой.

Ком. отр. Панамаренко /Травин/.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца дакумент пра гэтае здарэнне. 14 ліпеня 1944-га года камандзір савецкага партызанскага атрада імя Панамарэнкі Міхаіл Травін пісаў у рапарце камандзіру партызанскай брыгады імя Ракасоўскага:

“Тав[арыш] камбрыг, даводжу да Вашага ведама пра тое, што 10/VII – 44 г. у в. Якімавічы быў расстраляны нач[альнік] а[собага] а[ддзела] тав[арыш] Азановіч Уладзімір, адным камандзірам батарэй перадавых частак Чырвонай Арміі, з прычыны мне невядомай”.

Тое здарэнне Травіна і яго памочнікаў відавочна напалохала. Усе партызаны ведалі пра расстрэлы жыхароў вёскі Якімавічы, якія ўчыняліся ў 1943-1944 гады. Людзі з лесу забівалі цэлыя сем’і: і старых, і дзяцей. І тут чырвонаармейцы расстрэльваюць аднаго з камандзіраў атрада, які сам сябе называў “начальнікам смерці”. Пасля такога партызаны маглі прасядзець у лесе лішні дзень ці два. Той жа рапарт пра расстрэл быў напісаны толькі 14 ліпеня.

Першыя публікацыі пра гэтыя падзеі з’явіліся 20 гадоў таму.* Галоўным сведкам быў Васіль Струпавец, якога партызаны цяжка паранілі падчас расстрэлу яго сям’і ў хаце ў Якімавічах. Ён выжыў, у пасляваенны час дамагаўся, каб забойцаў судзілі. Аднак адзінае, чаго ўдалося дамагчыся — летам 1997 года следчы з Гродна зафіксаваў сведчанні людзей. Крымінальная справа распачатая не была. Хаця на той час яшчэ жылі некалькі чалавек, якіх людзі абвінавачвалі ў расстрэлах мірнага насельніцтва. У аднаго з іх прадстаўнікі мясцовых уладаў і “сілавікі” забралі пасведчанне ветэрана Вялікай Айчыннай вайны.

*Працяг на ст. 6-7.*

**Ёрш С. Што яны выраблялі! // Наша ніва, 1997, № 9-10, 10 сакавіка; Ёрш С. Што яны выраблялі! // Газета Слонімская, 1997, № 9, 1-7 жніўня.*

## Працяг гісторыі з рэстаўрацыяй слонімскай сінагогі

Кіраўніцтва Слоніма спрабуе знайсці неабходныя рэсурсы для рэстаўрацыі сінагогі, помніка архітэктуры сярэдзіны XVII стагоддзя. Летась была паездка ў Ізраіль, па выніках якой заявілі пра будучы музей. У ліпені 2017-га лёсам сінагогі зацікавілася міжнародная дабрачынная арганізацыя з Вялікабрытаніі, прадстаўнік якой наведаў Слонім і меў сустрэчу з кіраўніцтвам райвыканкама. Як піша “Слонімскі веснік”, абмяркоўваліся сумесныя планы па аднаўленню храма. Згаданая арганізацыя ўжо сабрала грошы на пачатак першага этапу работ.



***Фота Аляксандра Ярша.***

# Пра слонімскага фатографа Салавейчыка і яго нашчадкаў

У “СК” неаднаразова згадваўся фатограф Якаў Ісакавіч Салавейчык, які працаваў у нашым горадзе ў XIX стагоддзі.* Нядаўна выпадкова натрапіў на публікацыю пра беластоцкіх фатографаў**, а ў ёй згадваецца і слонімец! Аказваецца, фатографам стаў і сын Якава Восіп Салавейчык. Але самым знакамітым фатографам стаў унук Ісаак.


ПЕРВОКЛАССНАЯ
ФОТОГРАФІЯ
І. Я. Соловейчика
БѢЛОСТОКЪ,
Ченстоховская ул., собств. домъ
противъ цирка.

Як вядома, Якаў Салавейчык пасля жахлівага пажару ў Слоніме ў 1881 годзе пераехаў у Гродна. Там ён хутка адчыніў фотамайстэрню. Пасля таго, як у 1884 годзе Салавейчык памёр, яго справу працягнуў сын Восіп Якаўлевіч. З публікацыі пра беластоцкіх фатографаў вынікае, што ён нарадзіўся ў 1862 годзе ў Нясвіжы, дзе ў той час жылі бацькі. У гэтым горадзе ў Якава Салавейчыка была фотамайстэрня, пасля ён адчыніў такія ж майстэрні ў Слоніме і Пружанах. І неяк спраўляўся з гэтым сваім “бізнесам”. Калі сям’я фатографа пераехала на сталае жыццё ў наш горад, невядома.

У Гродне Салавейчыкі мелі фотамайстэрню ў доме Абрамскага па вуліцы Купецкай. 29 траўня (па новым стылі — 10 чэрвеня) 1885 года ў губернскім горадзе адбыўся буйны пажар, дом, у якім была фотамайстэрня, згарэў. І зноў павандравалі Салавейчыкі, на гэты раз у Беласток. Дазвол на адкрыццё там фотамайстэрні Восіп Салавейчык атрымаў 23 жніўня 1885 года. Канкурэнтаў у яго было менш, чым у Гродне — толькі 2 фотамайстры. Цікава, што да 1887-га ў Салавейчыка была яшчэ фотамайстэрня і ў Гродне, але ён яе прадаў, адкрыў другую “кропку” ў Беластоку.




У 1887-м Восіп Салавейчык узяў шлюб з Раісай Качаноўскай. У іх нарадзіліся два сыны і дзве дачкі. Восенню 1889 года жонка Восіпа хацела адчыніць у Беластоку ўласную фотамайстэрню, але ўлады не дазволілі, палічылі, што адной сям’і дастаткова ў горадзе дзвюх майстэрняў. Салавейчыкі сабралі грошы і набылі ўласны дом, дзе адчынілі адну фотамайстэрню, аб’яднаўшы свае дзве ранейшыя. Восіп Салавейчык памёр 3 траўня 1924 года. Яго фотамайстэрню пераняў зяць Авадзі Канэль, муж малодшай дачкі Марыі. Яна праіснавала ў Беластоку да выбуху Другой сусветнай вайны.

Ісаака Восіпавіча Салавейчыка (25.03.1890 — 29.09.1967) справядліва называюць “фатографам у трох пакаленнях”. Ён жыў у савецкай Беларусі і не мог мецца свайго “бізнесу”, аднак стаў


*Ісаак Салавейчык. Фота: znyata.com*

выдатным фатографам. Салавейчык працаваў у Мінску з 1925 года, быў фотакарэспандэнтам газет і часопісаў, выкладаў на курсах фотааматараў, у вучэльні, працаваў у Дзяржаўным мастацкім музеі. Ён — заслужаны дзеяч культуры БССР, быў першым мастацкім кіраўніком фотаклуба “Мінск”. Восенню 2010 года ў беларускай сталіцы адзначылі 120-годдзе з дня нараджэння Ісаака Салавейчыка, арганізавалі выставу “Фатограф свайго часу”. Архіў фатографа захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным музеі літаратуры і мастацтва.

***Арцём Салейка***

**Чыгрын С. Слонімскія фатографы пачатку XX стагоддзя // Слонімскі край, 2017, № 4(14). Красавік. С. 4-5; М. І. Фатографы і пажар 1881 года // Слонімскі край, 2017, № 5(15). Травень. С. 2.*

***Fotografia w Białymstoku w latach 1861 – 1915 // http://bialystok.kolekcjonerski.com.pl/fotografia-w-bialymstoku1/fotografia-w-bialymstoku-w-latach-1861-1915/*

# Знакаміты слонімскі шлем





Сярод знаходак, зробленых падчас археалагічных раскопак у Слоніме, найважнейшай з'яўляецца старажытны шлем. Яго адкапалі недалёка ад насыпу вала на Замчышчы каля цяперашняй Опернай вуліцы ў 1968 годзе. Раскопкі тады праводзіў археолаг Яраслаў Звяруга. Даследчыкі адразу адзначылі ўнікальнасць слонімскага шлему, паколькі яго аналагаў нідзе ў свеце няма. Ён складаецца з нагалоўя і паўмаскі, якія злучаліся заклёпкамі.

Датуецца шлем XII стагоддзем. Як пішуць даследчыкі, у сабе ён спалучыў тагачасныя дасягненні майстроў з Цэнтральнай Еўропы, з Прусіі. Магчыма, што ён быў выраблены дзесьці на Балтыцы, а яго ўладальнік перасяліўся на Слонімшчыну. А магчыма, што хтосьці з заможных слонімцаў купіў на чужыне такую дарагую рэч. Продкам нашым даводзілася шмат ваяваць, абараняючы сваю зямлю ад розных прыхадняў.

Шлем знаходзіцца ў экспазіцыі Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь у Мінску. Шкада, што не ў нашым краязнаўчым музеі.

●***Арцём Салейка***





***Малюнак з "Гістарычнага альманаху", 2003, т. 8.***

# Слонімшчына на малюнках нямецкіх вайскоўцаў Першай сусветнай вайны

У чэрвені многія беларускія СМІ распавялі пра выставу малюнкаў і гравюр з калекцыі даследчыка Уладзіміра Багданава, якая адкрылася ў Мінску ў Нацыянальным гістарычным музеі. Усе яны былі зроблены нямецкімі вайскоўцамі падчас Першай сусветнай вайны, фіксавалі не столькі ваенныя падзеі ў Беларусі, колькі штодзённае жыццё. На выставе можна пабачыць вуліцы і будынкі (у тым ліку і вядомыя помнікі архітэктуры) гарадоў, мястэчак, вёсак, іх жыхароў, краявіды, побыт сялян і шмат іншага.

На жаль, сярод некалькіх сотняў візуальных экспанатаў, няма Слоніма. Там прадстаўлены суседнія раёны, у тым ліку Дзятлаўшчына, а вось нічога слонімскага няма! Дзіўна, што так выйшла, бо гэтыя малюнкі вядомыя. "СК" летась змяшчаў падборку малюнкаў, зробленых нямецкімі вайскоўцамі ў 1916-1918 гадах і апублікаваных у баранавіцкай газеце.* Гэта — дзве панарамы горада, выява Татарскай вуліцы, яўрэйскага будынка, людзей на рынку, помнікаў на яўрэйскіх могілках. І ў пазнейшы час мы змяшчалі малюнкі нямецкіх мастакоўпрафесіяналаў і аматараў, зробленых у Слоніме.** У снежні 1917 года ў нашым горадзе яны нават наладзілі мастацкую выставу. Некалькі малюнкаў з яе прапануем увазе нашых чытачоў.

●*СЁ*

**Ёрш С. Слонім на старонках нямецкай газеты 1916-1918 гадоў // Слонімскі край, 2016, № 4. Травень. С. 1, 6-7.*

***СЁ. Слонім і слонімцы на малюнках нямецкага мастака // Слонімскі край, 2017, № 1. Студзень. С. 1, 3; [СЁ]. Мост на Шчары // Слонімскі край, 2017, № 4. Красавік. С. 2; СЁ. Мост у Слоніме на карціне нямецкага мастака // Слонімскі край, 2017, № 6. Чэрвень. С. 16.*



***Гандаль на вуліцы Школьны Двор (цяпер — Савецкая) каля сінагогі. Малюнак быў апублікаваны ў "Kriegszeitung von Baranowitschi" ("Ваеннай газеце ў Баранавічах") у студзені 1918 года.***



***Адна са слонімскіх вёсак. Аўтар малюнка — оберлейтэнант Грубэр. Малюнак быў апублікаваны ў "Ваеннай газеце ў Баранавічах" у сакавіку 1918 года.***



***Слонімскія сяляне падчас палявых прац. Гэты малюнак быў апублікаваны ў чэрвені 1917 года.***

# Кніга з “праваслаўна-ідэалагічным” ухілам

*Афанасик В. Загадки слонимских святынь. — Слоним, 2017. — 184 с.*




Слонімскі журналіст і краязнавец Васіль Афанасік сёлета выдаў чарговую кнігу. Яна прысвечана гісторыі і сучаснасці праваслаўных храмаў Слонімшчыны, складаецца з асобных нарысаў пра кожную царкву. Напісана цікава. Аўтар добра ведае тэму, размаўляў з праваслаўнымі святарамі, вернікамі. Чытачы знойдуць нямала цікавых фактаў, якія Афанасік сабраў пад адну вокладку з розных выданняў, з архіўных дакументаў, шмат даведаўся ад людзей.

Дарэчы, аўтар падкрэсліў, што архіўныя матэрыялы толькі дапаўняюць успаміны людзей, а не наадварот. Справа ў тым, што ў Васіля Афанасіка “склаліся неадназначныя адносіны да некаторых архіўных дакументаў”. Ён прывёў некалькі прыкладаў з часоў апошняй вайны. Сапраўды, супярэчнасцяў, фальшы там хапае. Але справа даследчыка шукаць ісціну, вывучаючы ўсе даступныя крыніцы, а не грэбаваць некаторымі з іх. Тым больш, што даўнія падзеі ў памяці людзей могуць захавацца са скажэннямі.

Звычайны чытач не чытае навуковых манаграфій, для яго пішуць навукова-папулярныя тэксты. З іх людзі даведваюцца пра гісторыю сваіх населеных пунктаў, пра выбітных асоб, якія ў іх раней жылі. Падобнай папулярызацыяй займаецца і Афанасік. Можна ўявіць, што кнігу чытаюць не толькі жыхары Слоніма, але і навакольных вёсак — Азярніцы, Жыровічаў, Вялікай Кракоткі, Міжэвічаў, Старадзявяткавічаў, Сурынкі, Шылавічаў… Кніга разлічана на масавага чытача, яе наклад па сённяшніх часах вялікі — 1000 асобнікаў. Яшчэ доўгі час яна будзе захоўвацца ў хатніх бібліятэках мясцовых жыхароў, фармаваць уяўленне людзей пра далёкае і недалёкае мінулае.

Для краязнаўцаў кніга Васіля Афанасіка — даволі спецыфічная праца. Праз усю яе, ад першых і да апошніх старонак, праходзіць тэма “святога Праваслаўя”. Мімаволі ўзнікла думка, што месцамі тэкст напісаны духоўнай асобай... Не хацелася б, каб былі ў нас “канфесійныя” краязнаўцы, гісторыкі, у кожнага з якіх свая праўда. Рыма-каталіцкі аўтар напіша, якія кепскія праваслаўныя і як яны зацята перасследвалі каталікоў, у пэўнай ступені яго падтрымае ўніят, у пратэстанта будзе свая пазіцыя. Але ж трэба шукаць шляхі для аб’яднання нацыі, для захавання міжканфесійнага міру.

Якраз “праваслаўна-ідэалагічны” ўхіл кнігі краязнаўцы з’яўляецца яе слабым месцам. Бо і гісторыя былых рыма-каталіцкіх ці ўніяцкіх храмаў падаецца часам дзіўнавата. Магчыма, проста аўтару не хапала “не праваслаўных” крыніц. Ужо гадоў 15 даследчыкам вядома, што ўніяцкі святар з Альбярціна, пазнейшы экзарх Антон Неманцэвіч памёр у нямецкай турме ў Мінску ў студзені 1943 года. В. Афанасік піша, што “па некаторых звестках” ён загінуў у гестапа ў Баранавічах у 1942-м… З кнігі вынікае, што Унія — адзін з ворагаў беларусаў. Але ж многія нашы продкі былі ўніятамі сотні гадоў, за гэты час назапашаны вялізны культурны набытак, які можна пабачыць у музеях, архівах, бібліятэках. І калі царскія рускія ўлады пераводзілі іх у праваслаўныя, было і незадавальненне, і супраціўленне, а ў адказ — рэпрэсіі. Вядома ж, гэта аўтар абмінуў.

Здзіўляе яшчэ, што ў кнізе Васіль Афанасік піша і“Белоруссия”, і “Беларусь”. Атрымліваецца нейкае “раздваенне”. Пра падзеі 1863 года можна прачытаць, як пра “паўстанне К. Каліноўскага” і як пра “польскі мяцеж”…

На жаль, праваслаўю ў Беларусі (як і ўсяму грамадству) дагэтуль вельмі не хапае беларускасці, арыентацыі на Мінск, а не на які-небудзь замежны цэнтр. “Стольный град Москва”, — піша Афанасік у сваёй кнізе, выдадзенай у незалежнай Рэспубліцы Беларусь.

●***Сяргей Ёрш***

# Расстрэл у Якімавічах “начальніка смерці”

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

У гэтым нумары “СК” спынімся толькі на Азановічы. Вось што пра яго вядома з матэрыялаў Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь.

Азановіч Уладзімір Андрэевіч, 1918 года нараджэння, член ВКП(б), беларус. Адукацыя 4 класы. Вайсковае званне — шэраговец. Месца службы — *“4 ОМП 6 ОТК”*. Грамадзянская спецыяльнасць — “майстра-хлебапёк”. У войска прызваны з вёскі Дубенкі Бязлесаўскага раёна Мінскай вобласці. У нямецкі палон трапіў 3 ліпеня 1941 года. У архіўных дакументах называюцца дзве даты яго прыбыцця з палону ў партызанскі атрад: 3 кастрычніка і 3 лістапада 1942-га. Спачатку ў атрадзе ён займаў пасаду камандзіра аддзялення, пасля яму даверылі контрразведку. Азановіч часта наведваў вёскі ў раёне базавання атрада імя Панамарэнкі: Якімавічы, Нагуевічы. Харашэвічы. Вербаваў там людзей для выконвання розных заданняў, меў каханак.

Жыхарка Якімавічаў Зоя Цімафееўна Касабуцкая (1923 года нараджэння) у размове з аўтарам гэтых радкоў у ліпені 2000 года згадвала пра сустрэчу з Азановічам. Ён так ёй прадставіўся: *“Я — начальнік смерці, начальнік асобага аддзела Азановіч Валодзя”*. Відавочна, што былы салдат-хлебапёк, які зрабіў імклівую кар’еру, атрымліваў асалоду ад сваёй улады над людзьмі.

Пра абставіны расстрэлу Азановіча сведчанні людзей маюць пэўныя адрозненні. Жыхар вёскі Якімавічы Сцяпан Сільвестравіч Данільчык (1924 года нараджэння) успамінаў летам 1997-га: *“А гэтага бандыта Азановіча забіла савецкая контрразведка. Азановіч і іншыя прыехалі сюды па трафеі, бо тут немцы шмат што пакідалі, калі адступалі, і вось тут іх накрылі... Было ўсіх іх [партызан] 6 чалавек, [начальнік разведкі] Вася Шпок быў і іншыя. Аднаго Азановіча расстралялі, бо гэтыя паўцякалі...”*.

Прыйшла Чырвоная Армія, а савецкія партызаны ўцякалі ад яе ў лес!

Жыхарка Якімавічаў Яўгенія Афанасьеўна Швайдзюк (1917 года нараджэння) у жніўні 1996-га ўспамінала: *“Азановіча тут (у Якімавічах) расстралялі. Я гэта добра памятаю. Ён прыйшоў пытаць гарэлкі. Ён да нас прыходзіў, а мой [муж] кажа: “Валодзя, ужо мінулася тое, што ты хадзіў па вёсцы, па хатах і патрабаваў ад нас, гэта ўсё мінулася”. Ён ад нас пайшоў… Пайшоў ён па вёсцы… Прыбягае суседка: “Жэня, Жэня, забілі Азановіча!” Я кажу: “Юзік, Азановіча забілі”. А ён гаворыць: “Ай, шкада, што яго забілі. Я б яму сказаў!.. Як ты адчытаешся перад савецкай уладай? Ты тут “герой” быў, людзей нашых выбіў палову”.*

Швайдзюк пацвердзіла, што спадарожнікі Азановіча ўцяклі ў лес. На гары каля Якімавічаў “начальніка смерці” расстрэльваў “рускі” афіцэр. Нават пасля трох куль асабіст яшчэ стаяў на нагах і прасіў вады. “Афіцэр кажа: *“А ты як вадзіў людзей у лес расстрэльваць, даваў ім ваду?”*, — успамінае Швайдзюк. Уначы партызаны адкапалі цела Азановіча і пахавалі яго на могілках у Нагуевічах.

Ураджэнец Нагуевічаў Васіль Барысавіч Лазар (1929 года нараджэння) у ліпені 2001 года ўспамінаў, што савецкія вайскоўцы знайшлі ў Азановіча спіс жыхароў яго вёскі, якіх ён, нібыта, збіраўся расстраляць. Сярод іх былі і партызанскія сувязныя. Начальнік контрразведкі быў у нямецкай форме. Сам Лазар гэтага не бачыў, але так расказвалі сведкі. Уладзімір Азановіч паведаміў савецкаму маёру, што ён — начальнік контрразведкі. Таго насцярожыла яго форма, а тут людзі пачалі скардзіцца, расказваць пра злачынствы. “Ты не партызан, ты — бандыт!”, — сказаў афіцэр і вынес прысуд: расстрэл.

Пра спіс людзей, якіх збіраўся расстраляць Азановіч, у снежні 1995-га згадваў і Васіль Васілевіч Струпавец: *“Азановіча ўзялі, вялі ў Альбярцін, у штаб ці ў контрразведку. На пагорак вывялі з Якімавічаў, а ў яго спіс быў пры сабе, каго яшчэ расстраляць трэба. Нешта 8 сем’яў хацеў ён расстраляць у Якімавічах. Гэты спіс ён выкінуў, а салдаты і афіцэр заўважылі. Узялі яны яго і назад павялі. Маёр прачытаў спіс і тут жа яму вынеслі прысуд. Яго нікуды не павялі. Яшчэ дзядзька ў морду надаваў яму...”*.

Васіль Лазар успамінаў, што ў Нагуевічах Азановіча аплаквалі тры маладыя жанчыны (толькі адна з іх была з гэтай вёскі): *“Яго ў гумно завезлі, у гэтым гумне мылі. А ён набрыняў, тоўсты, як калодка, быў… Людзі збягаліся ды глядзелі на гэта ўсё. І лічылі, што сабаку сабачая смерць. Так і гаварылі людзі. Ён многа людзей знішчыў нявінных”.*

●***Сяргей Ёрш***

Приказ № 13 6

По Слонимском Межрайцентру партизанского движения.

23 декабря 1943 г. Н-Лес

Приказом № 12 было приказано: за допущенные безобразия командирами взводов 14.12.43 г. наложить взыскания, о принятых мерах донести и ряд других приказов в которых требовалось донести в Межрайцентр и устного указания насчет разведданых, однако командование партизанского отряда им. „Панамаренко" не изволило выполнить а по этому

Приказываю

В пред недопускать подобных фактов а за невыполнение выше перечисленных приказов и указаний командиру отряда им. „Пономоренко" Зайцеву и комиссару Лапину. ставлю на вид и при повторении подобных фактов будут приняты более строгие меры.

Уполномоченный Центрального штаба партизанского движения и ЦК КП(б)Б по Слонимскому Межрайцентру [подпись] /Алекс

Начальник военно-оперативного отдела по Слонимскому Межрайцентру [подпись] /Дудар/

***У 1943 годзе з-за лініі фронту на Слонімшчыну прыбыло партыйнае кіраўніцтва, якое спрабавала навесці парадак у савецкіх партызанскіх атрадах. У архіўным дакуменце, падпісаным упаўнаважаным Цэнтральнага партызанскага штабу [савецкага] партызанскага руху і ЦК КП(б)Б па Слонімскім міжрайцэнтры Міхаілам Анішчыкам (“Аляксеем”), гаворка ідзе пра камандаванне атрада імя Панамарэнкі, якое не выконвала загады. Захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, друкуецца ўпершыню.***

# Сяменікі — ахвяры немцаў і бальшавікоў



У старой частцы Ружанскіх могілак ёсць помнік, надпіс на якім сведчыць пра трагічны лёс слонімскіх мяшчан. 70-гадовая Юзэфа Сяменік загінула ў жніўні 1915 года “ў час нямецкага бамбардавання г. Слоніма”. Тут відаць маецца на ўвазе артылерыйскі абстрэл,а не бамбёжка з аэрапланаў. Тады якраз пачыналіся баі паміж нямецкімі і рускімі войскамі за наш горад. 50-гадовы Ян Сяменік загінуў у верасні 1920 года. Надпіс пра тое, хто яго “замардаваў”, збіты і найхутчэй сваякамі дзесьці ў верасні 1939 года, калі на змену польскай уладзе прыйшла ўлада савецкая. Справа ў тым, што амаль увесь верасень 1920-га ў нашым горадзе панавалі бальшавікі. Таму ў знішчанай частцы надпісу паведамлялася, што менавіта яны закатавалі слонімца.

***Сяргей Ёрш***

# Зноў пра загадкавы храм на паштоўцы

У мінулым нумары “СК” мы змяшчалі нямецкую паштоўку часоў Першай сусветнай вайны са здымкам разбуранага храма ў Слоніме.* Аднак апазнаць яго не ўдалося. Зважаючы на разбурэнні, мы палічылі, што ён мог быць дзесьці на Замосцці ці нават на Лабазоўцы. Але, відаць, мае рацыю наш сталы чытач Андрэй С., які выказаў меркаванне, што на паштоўцы можа быць касцёл піяраў, які калісьці існаваў у нашым горадзе. Храм апісваўся, як ратонда (цыліндрычная пабудова з купалам). “Месца, дзе ён знаходзіцца, прыпамінае ўзгорак насупраць Ружанскіх могілак, а там калісьці, як распавядала бабуля, была пратэстанцкая кірха і могілкі… Часцяком бывала так, што храмы пераходзілі ад адных да другіх”, — піша чытач.



Слонімскі край, № 6(16)

## Загадкавы храм

Сярод нямецкіх паштовак з краявідамі Слоніма, выдадзеных падчас Першай сусветнай вайны, ёсць адна, загадку якой пакуль краязнаўцам не ўдаецца разгадаць. На ёй бачым фота паўразбуранага культавага будынку і подпіс па-нямецку: “Слонім — Разбураны Храм”. Дакладна такі ж подпіс мае іншая тагачасная паштоўка, на якой бачым паўразбураны касцёл святога Андрэя. Па ёй пытанняў не ўзнікае — абрысы касцёла пазнавальныя, ёсць шэрагіншых здымкаў, малюнкаў, на якіх можна пабачыць дакладна такія разбурэнні. А вось выявы першага храма больш нідзе сустракаць не даводзілася.

Малаверагодна, каб тут была памылка з горадам — немцы адносіліся да выпуску паш-

“СК” ужо пісаў пра лютэранскія могілкі, якія былі на ўзгорку па Ружанскай вуліцы, які цяпер пустуе (там захаваліся толькі некалькі помнікаў).** Пазней пра іх напісаў Ігар Пракоф’еў у “Слонімскім весніку”.*** Ён згадваў са слоў жыхароў бліжэйшых дамоў, што калісьці на могілках была капліца. Яе руіны можна было пабачыць яшчэ пасля Другой сусветнай вайны.

Паспрабуем праверыць версію нашага чытача, а значыць працяг тэмы яшчэ будзе.

●***СЁ***

**Ёрш С. Загадкавы храм //Слонімскі край, 2017, № 6(16). Чэрвень. С. 3.*

***Герасімчык В., Ёрш С. Які лёс чакае Лютэранскія могілкі ў Слоніме? // Слонімскі край, 2016, № 8. С. 6-7.*

****Прокофьев И. Аллегории и аналогии переулка Достоевского // Слонімскі веснік, 2016, № 130, 5 лістапада.*

# У Слоніме маскоўскіх паслоў трымалі пад вартай

Гэтая гісторыя здарылася падчас 25-гадовай Лівонскай (Інфлянцкай) вайны. Лівонскі ордэн са сталіцай у Рызе не мог самастойна супрацьстаяць Маскоўскай дзяржаве і папрасіў дапамогі ў Вялікага княства Літоўскага. Пачалася вайна, падчас якой ВКЛ страціла Полацк, яго захапілі маскоўцы. У снежні 1575 года каралём Рэчы Паспалітай, вялікім князем літоўскім стаў Стэфан Баторый, які пачаў рыхтавацца да працягу ваенных дзеянняў, каб адваяваць землі ВКЛ. А пакуль ішлі працяглыя перамовы пра заключэнне перамір'я.



Калі падрыхтоўка ў асноўным была скончана, вясной 1578 года ў Маскву Баторый адправіў пасла Міхала Галабурду з лістом да цара Івана Жахлівага. У ім ён адкрыта гаварыў: перамір'я не будзе, пакуль маскоўскія войскі не пакінуць Лівонію, Полацкую зямлю. А маскоўскі цар іх ужо лічыў сваімі. Пасла Галабурду ў Маскву не прапусцілі, у траўні-чэрвені яго трымалі ў Дарагабужы, пасля да жніўня — у Ржэве (толькі пасля гэтага яго прыняў цар). Магчыма, здагадваліся пра патрабаванні караля і захацелі яго перахітрыць. У траўні таго ж года ў Рэч Паспалітую паехала пасольства Івана Жахлівага, на чале якога быў Міхаіл Карпаў. Яно везла на зацвярджэнне грамату пра… перамір'е, якога ўжо не хацелі Вільня і Варшава. Масква, відаць, спадзявалася: а раптам падпішуць!

Стэфан Баторый загадаў з маскоўскімі пасламі не цырымоніцца, ведаў, што хутка з новай сілай працягнецца вайна. Над маскавітамі фактычна здзекаваліся (магчыма, было вядома, што пасол Галабурда стаў закладнікам у Масковіі). Іх затрымалі на мяжы ВКЛ, праз нейкі час адправілі далей, затрымлівалі зноў і зноў. Дыпламаты апынуліся ў ролі закладнікаў. Яны прасілі пра сустрэчу з каралём і вялікім князем, ім казалі, што ён будзе ў пэўным горадзе, ехалі туды, але там яго не аказвалася. І так працягвалася каля паўгода.

Карпаў падчас гэтых пераездаў і сядзенняў пад вартай раптоўна памёр (у верасні 1578 года). У Рэчы Паспалітай гаварылі: "З паслоў маскоўскіх адзін нядаўна памёр у Любліне, шкада, што не сам князь у Маскве". Пасольствам стаў кіраваць Пётр Галавін. Дык вось трымалі пад вартай маскоўцаў і ў Слоніме, найхутчэй у замку. Былі яны ў нашым горадзе дзесьці ў чэрвені-ліпені. Дыпламаты нават у тых умовах спрабавалі збіраць "разведдадзеныя", але яны хутка састаравалі, альбо аказваліся дэзынфармацыяй… Толькі ў снежні 1578-га іх нарэшце прыняў у Кракаве кароль Стэфан Баторый, каб неўзабаве са скандалам адправіць на радзіму.

Маскоўскі цар Іван Жахлівы пісаў абурана каралю Стэфану Баторыю: "Как к тебе пришли, и ты то ни во што поставя, через присягу послов своих, по их приговору делати не похотел и, наших послов обесчестя, посадил еси их за сторожи, як вязней, в великой нужде".

У жніўні 1579-га Полацк быў адваяваны ў маскоўцаў. Праз тры гады падпісалі мірную дамову. Паводле яго Лівонія засталася пад кантролем ВКЛ.

**●*Генадзь Гурскі***

# Слонім на нямецкай лістоўцы лета 1941 года

У чэрвені 1941 года 2-я і 3-я танкавыя групы нямецкай арміі рваліся на ўсход з раёна Брэста і Сувалак, каб злучыцца на захад ад Мінска. У выніку ўтварыўся "Беластоцкі кацёл", у якім былі акружаныя савецкія войскі. У іх заставалася адна дарога для адыходу на ўсход — на Слонім, але і яе 28 чэрвеня перарэзалі немцы, якія занялі



ТОВАРИЩИ КРАСНОАРМЕИЦЫ!

Вы окружены со всех сторон!
Ваше положение безнадежно!
Всякое сопротивление бессмысленно!



Зачем Вам зря проливать
Вашу кровь?
Неправда — что немцы мучают
или даже убивают пленных!
Это наглая ложь!
Немецкие солдаты хорошо относятся
к пленным!

Ваўкавыск. Страты Чырвонай Арміі ў жывой сіле і тэхніцы былі вялізныя. У акружэнні пад Беластокам і Мінскам у палон трапілі 324 тысячы чалавек.

Лістоўка чэрвеня 1941-га раскідвалася з нямецкіх самалётаў над пазіцыямі савецкіх войскаў, якія апынуліся ў "Беластоцкім катле".

**●*АС***

# Сельскагаспадарчая школа ў Грыбаве

У ліпені 2017-га на аўкцыёне ay.by з’явілася падборка здымкаў 1935 года, на якіх можна пабачыць вучняў і выкладчыкаў сельскагаспадарчай школы ў Грыбаве пад Слонімам. Пры польскіх уладах на Слонімшчыне існавала яшчэ сельскагаспадарча-лясная школа ў Жыровічах, якая лічылася сярэдняй, а грыбаўская — “ніжэйшай”.

Дзяржаўная сельскагаспадарчая мужчынская школа ў Грыбаве пачала дзейнічаць у лютым 1928 года, хаця падрыхтоўчыя працы ішлі яшчэ ў 1927-м (урачыстае адкрыццё з удзелам кіраўніка Слонімскага павету адбылося 29 чэрвеня 1928-га). Пад галоўны будынак навучальнай установы выкарысталі былы дзяржаўны маёнтак. Вучыцца і жыць там было камфортна, у будынку была нават гарачая вада.

Праўдападобна, навучэнцаў было каля 60 чалавек. Для іх стварылі ўсе ўмовы, у тым ліку і для практычных заняткаў. Школа мела некалькі дзясяткаў гектараў зямлі, коней, кароў, іншую хатнюю жывёлу. У вольны час хлопцы займаліся ў гуртках, адбываліся тэатральныя прадстаўленні*, адно з якіх мы бачым на здымку.

Верагодна, адзін з былых навучэнцаў сельскагаспадарчай школы ў Грыбаве і захаваў гэтыя здымкі, як памятку пра цікавыя гады сваёй маладосці. Нашчадкі іх цяпер прадаюць. ●**СЁ**

**Больш падрабязна пра школу ў Грыбаве гл. тут: Państwowa Szkoła Rolnicza Męska w Grybowie // Zycie Nowogródzkie, 1928, № 298, 3 снежня.*











# Крымінал і здарэнні на Слонімшчыне 90 гадоў таму

Крымінальная хроніка міжваеннага часу (1920-1930-х гадоў) толькі часткова нагадвае цяперашнюю. І гэта зразумела. У той час яшчэ не было злычынстваў у сферы высокіх тэхналогій, паколькі адсутнічалі самі гэтыя тэхналогіі. Было мала аўтамабіляў і іншай тэхнікі... Аднак хапала крадзяжоў, рабункаў, забойстваў, сямейных і суседскіх канфліктаў. У гэтым нумары "СК" згадаем крымінал, які прыпадае на далёкі 1927 год.

У той час у Слоніме налічвалася каля 15 тысяч жыхароў (яўрэі складалі больш за 60%). Бурмістрам горада быў Эдвард Клімовіч, яго змяніў Уладзімір Плябанскі. Старастам Слонімскага павету быў Ян Дораш (яго ў канцы года змяніў Уладзіслаў Геншаль). Дораш у ліпені 1927-га заявіў, што Слонімскі павет — адзін з найбяднейшых у ваяводстве. Так яно і было.

У тым годзе камендант слонімскай павятовай паліцыі Станіслаў Маеўскі даваў інтэрв'ю ваяводскай газеце. Ён згадаў, што павет моцна пацярпеў падчас ваенных падзей 1915-1920 гадоў і гэта адчувалася нават праз столькі часу. Як у Слоніме, так і ў павеце не хапала адпаведных будынкаў для той жа паліцыі. Павятовая паліцыя летам 1927-га знаходзілася ў старостве, якое займала былы кляштар бернардзінцаў. Па словах Маеўскага, на Слонімшчыне менш урадлівая зямля, чым у суседніх паветах, да таго ж прамысловасць перажывала не лепшыя часы. І гэтыя эканамічныя цяжкасці аблягчалі агітацыю праціўнікам польскіх уладаў, найперш нелегальнай Камуністычнай партыі Заходняй




*Фота: dobroni.pl*

Беларусі. Яе дзейнасць тут адчувалася больш, чым у суседзяў. Паліцэйскі начальнік наракаў і на тое, што многія жыхары Слонімшчыны былі ў бежанстве ў Расіі і вярнуліся адтуль ужо пад уплывам бальшавіцкай агітацыі. Станіслаў Маеўскі выказаў спадзяванне, што высілкі польскага ўраду па паляпшэнні эканамічнай сітуацыі ў краіне "дапамогуць загоіць колішнія раны", людзі зажывуць лепш і ўжо не будуць звяртаць увагі на камуністычную агітацыю. Гаворачы пра сітуацыю з крымінальнымі злачынствамі, паліцэйскі начальнік адзначыў, што раней іх было шмат, але ў той час колькасць зарэгістраваных фактаў істотна знізілася.

Польскія ўлады таксама спрабавалі агітаваць беларусаў, перацягваць іх на свой бок, настройваць супраць КПЗБ. Нярэдка атрымлівалася няўдала. Вось у ліпені 1927 года адна з польскіх газет напісала пра трагічнае здарэнне ў Сялявічах. Там загінулі трое дзяцей, якіх засыпала ў прыдарожнай яме. Замест таго, каб паспачуваць, выданне напісала, што бацькі дзяцей з "камуністычнага лагеру". Таму людзі, нібыта, гаварылі, што "гэта кара Божая за бязбожных бацькоў". Такая публікацыя ў мясцовых жыхароў магла выклікаць толькі абурэнне.

У пачатку чэрвеня 1927-га стала вядома, што на Слонімшчыне паліцыя затрымала махляра, у якога былі дакументы "ўпаўнаважнага" "Саюза польскіх фашыстаў". Збіраў ён у мясцовых жыхароў ахвяраванні на гэтую арганізацыю. Да арышту паспеў надурыць дваіх чалавек, пра што сведчылі квітанцыі, якія паліцыянты знайшлі ў "фашыста". Падобных махляроў у той час хапала. Звычайна, гэта былі "гастралёры", якія прыязджалі з Варшавы, Вільні, Беластока, Гродна.

Дарэчы, пра "гастралёраў". У ноч з 3 на 4 лістапада яны паспрабавалі абрабаваць павятовы банк у Слоніме, для гэтага мелі набор разнастайных прыладаў. У будынак рабаўнікі ўлазілі праз акно. Аднак вартаўнік не спаў — з карабіна ён забіў аднаго з іх, іншыя кінуліся ўцякаць. Высветлілася, што забіты — вядомы крымінальнік з Вільні Якуб Рудашэўскі.

*Працяг на ст. 12*

*Працяг, пачатак на ст. 11.*

Неўзабаве паліцыя арыштавала трох падазраваных у нападзе.

У Слоніме было шмат невялікіх крамаў, некаторыя з іх злодзеі проста тэрарызавалі: здзяйснялі начныя напады адзін за адным. У некаторых гандляроў проста апускаліся рукі і яны закрывалі свой "бізнес". Неспакойная ў гэтых адносінах была вуліца 3 Мая (цяперашняя Чырвонаармейская). Злодзеі наведвалі і жылыя дамы. У кастрычніку яны вынялі шыбу ў акне дома Яна Качмарэка, які жыў у 120-м доме па згаданай вуліцы, забралі адзенне на вялікую па тых часах суму — 500 злотых.

У чэрвені вучань дзяржаўнай настаўніцкай семінарыі 18-гадовы Язэп Блізнюк учыніў спробу самагубства — выпіў серную кіслату. Хлопца выратавалі. У шпіталі паліцыянты спрабавалі ў яго высветліць, што стала прычынай такога ўчынку. У міжваенны час самагубстваў хапала, асабліва сярод маладых людзей, нярэдка прычынай было няшчаснае каханне.

Яшчэ адна бяда, якая пераследавала Слонімшчыну ўсе міжваенныя гады, гэта забойствы з агнястрэльнай зброі, часта з нелегальнай. Такім чынам найперш зводзіліся асабістыя рахункі. Каля вёскі Голі Кастровіцкай гміны ў полі невядомы стрэліў у Аляксандра Карпейчыка і параніў яго, мужчына памёр. У Вераб'евічах Чамяроўскай гміны забілі стрэлам праз акно гаёвага дзяржаўных лясоў Рэльскага. Меркавалася, што гэта была помста браканьераў.

Нярэдкімі былі крадзяжы хатняй жывёлы. У лістападзе ў Альбярціне са стайні Яна Галаскокава ўкралі карову коштам 400 злотых. У вёсцы Волька Міжэвіцкай гміны некалькі зламыснікаў трапілі ў камору Міхала Ракевіча. Яны пагражалі рэвальверамі і хацелі ўчыніць рабунак, аднак і гаспадар, і яго сям'я не спалохаліся, аказалі супраціўленне. Нападнікі ратаваліся ўцёкамі, пры гэтым адстрэльваліся з рэвальвераў.



*Следчыя паліцыі за працай. Фота: mwb.com.pl*

У "разборках" сялян выкарыстоўваліся сякеры, вілы, сярпы. У крымінальнай хроніцы вельмі часта згадваюцца бойкі паміж сваякамі, часам яны заканчваліся калецтвамі ці нават смерцю.

Шмат здарэнняў было на чыгуначных пераездах. Сялянскія вазы спынялі цягнікі з Парыжу… У снежні пад Альбярцінам хуткі цягнік, ідучы з Баранавічаў у Слонім, наехаў на фурманку, якой кіраваў Валенты Тарасевіч. Конь быў забіты на месцы, а воз знішчаны дашчэнту. Цяжка параненага Тарасевіча везлі тым жа цягнікам у Слонім, аднак па дарозе ён памёр.

На старонках тагачаснага друку можна таксама сустрэць інфармацыю пра пажары. У кастрычніку невядомыя падпалілі лес слонімскай фірмы, якая яго нарыхтоўвала па дарозе з нашага горада на Казлоўшчыну. Гэта магло быць хуліганства, а магла быць і палітычная акцыя, супраціўленне ўладзе, прадпрымальнікам, якія яе падтрымлівалі.

Хапала пажараў і ў Слоніме. Летам 1927-га на Падгорнай вуліцы (цяпер — Сінічкіна) згарэлі дамы Мацея Петрашкевіча і Рыгора Багдановіча. Апошні спрабаваў выратаваць сваю маёмасць, атрымаў апёкі галавы, рук і ног.

26 верасня 1927 года адбылося здарэнне ў слонімскім касцёле св. Андрэя. Там праходзіла ўрачыстае набажэнства, на якое прыехаў віленскі арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі. Раптоўна са столі адваліўся вялікі кавалак тынкоўкі і ўпаў на алтар. Пачалася паніка, людзі кінуліся да выхаду. Каля дзвярэй касцёла ўтварылася цісканіна. На вуліцы знаходзіўся камендант паліцыі з паліцыянтамі. Яны кінуліся арганізоўваць парадак на выхадзе з храма. Тым не менш, 6 чалавек атрымалі лёгкія цялесныя пашкоджанні, іх адвезлі ў гарадскую бальніцу. Пасля аказання медыцынскай дапамогі пацярпелых адпусцілі.

●*Сяргей Ёрш*

# Мая Слонімшчына

*Заканчэнне, пачатак у №№ 5(15), 6(16) за 2017 г.*

Быў другі месяц восені — кастрычнік 1941 года. У гэты час я таксама атрымаў будынак для арганізацыі рамеснае школы. Набор вучняў пачаўся са старэйшай моладзі ад 14 гадоў. Трэба было знайсці настаўнікаў і інструктараў для кожнага рамясла, бо арганізавалі мы напачатку пяць аддзелаў: шаўцоў, краўцоў, слесараў, кавалёў, цырульнікаў ды асобны аддзел крою і шыцця для дзяўчат. На перамену праводзіліся лекцыі з навукі беларускай мовы ды геаграфіі і гісторыі Беларусі. Наплыў вучняў быў такі вялікі, што некаторыя з плачам адыходзілі дамоў, бо не было ўжо месцаў, іх хапала на 200 асобаў і то на дзве змены. У школу наплывала моладзь, як з горада, так і з вёсак. Тут трэба зазначыць, што ў гэтым часе немцы пачалі вывозіць беларускую моладзь на працу ў Нямеччыну, а каму хацелася ехаць у далёкую і невядомую краіну?! Таму моладзь шукала ратунку ў школах, якія перапоўніліся да адказу.




***Руіны ў раёне Чырвонаармейскай вуліцы ў Слоніме, 1941 г.***

У гэты час таксама пачала дзейнічаць партызанка [партызанскі рух]. Нашы сяляне ад яе хаваліся ў горадзе. І такім чынам Слонім хутка перапоўніўся насельніцтвам. Дайшло да таго, што не хапала ўсім памяшканняў. Каб адчыніць дадатковыя школы ў такой сітуацыі, не было нават мовы. Колькі было тады бяды для нашага народу — цяжка зразумець.

Немцы былі ўжо далёка на ўсходзе, але ніхто не ведаў, чым гэта ўсё можа скончыцца. У Менску таксама пачала шырока разгортвацца беларуская нацыянальная праца. Адной з галін гэтае працы была арганізацыя беларускага тэатра, артысты якога пачалі ездзіць па гарадах Беларусі. У Слоніме быў адпаведны будынак[1] для тэатральных выступаў, таму менскія артысты наведвалі Слонім не адзін раз.

Аднойчы прыехала вялікая група артыстаў на некалькі выступленняў. Артысты паказалі ўрыўкі з “Купалля”, ігралі на цымбалах ды выконвалі розныя песні. На гэты выступ прыйшоў і гебітскамісар са сваёй світай, для якога Стэфа Лыскавец праспявала дзве песні Шуберта па-нямецку. Захапленне канцэртам было агульнае і вялікае.

Хачу я добрым словам прыгадаць і цудоўнага чалавека сп[адара] Сяргея Новіка-Пеюна. Гэта ён уздзеяў на мяне ды іншых людзей сваім глыбокім патрыятызмам і паэзіяй.

Недзе ў 1939 годзе ён пачаў дапамагаць у зборы гістарычных памятак нашага народа палкоўніку Стаброўскаму[2], які захапіўся збіраннем гэтых экспанатаў. Як я ведаю, Слонімскі музей меў важныя гістарычныя дакументы пра князёў Сапегаў, Агінскіх ды іншых. Таксама ў 1939 годзе музей папоўніўся вялікай бібліятэкай кс[яндза] Адама Станкевіча[3], які паспешна выехаў у Вільню, пазбягаючы арышту [савецкімі ўладамі].



***Адам Станкевіч***

Падчас нямецкай акупацыі сп[адар] Новік-Пяюн узяў апеку над музеям, а Стаброўскі застаўся ганаровым сябрам і ў гэты час завяршаў працу над кнігай “Як Русь хадзіла на Літву і як Літва перамагла Русь”.

З кс[яндзом] Адамам Станкевічам я не быў знаёмы ў Слоніме, але чытаў ягоную кнігу “Родная мова ў святынях”. Пасля прачытання гэтай кнігі, я палюбіў кс[яндза] Адама. Ужо

пазней, калі я ездзіў у Вільню па беларускія кніжкі для гарадской бібліятэкі, загадчыкам якое я быў, спаткаўся з кс[яндзом] Адамам ды нават быў на яго імшы ў касцёле Архангела св. Міхала.

Хачу успамянуць пра СБМ[4] у Слоніме. СБМ існавала пры раменай школе і пры прагімназіі. У чэрвені 1943 года ў Слонім прыехаў галоўны кіраўнік СБМ сп[адар] Ганько[5], мы віталі [яго] на бульварах канала Агінскага. Сп[адар] Ганько перш падыйшоў да майго звязу рамеснае школы, хіба таму, што я таксама быў у мундзіры СБМ, а апякун СБМ прагімназіі быў у цывільным. Слонімскія звязы СБМ рабілі пра сябе вельмі добрае ўражанне, бо моладзь у іх была прагная да ведаў і патрыятычная. Усе школы ў Слоніме дбалі пра дабро сваіх вучняў, хоць было гэта не так лёгка ва ўмовах немецкай акупацыі і вайны.

10 сакавіка 1944 года пачаўся набору БКА[6] ў Слоніме. Адмысловая камісія пастанаўляла аб здольнасці і здароўі пакліканых асобаў ваенным камісарыятам да 30 гадоў. Праўда, прымалі не ўсіх, дзеля недахопу вайсковай вопраткі, зброі і нават памяшкання. Актывісты Слоніма загадзя падрыхтавалі Народны дом да гэтай падзеі, развесіўшы нацыянальныя сцягі, а на сцяне над сцэнай, дзе сядзела камісія, быў вывешаны кліч Кастуся Каліноўскага: “Ваюй народзе за сваю вольнасць, за сваё чалавечае права…”. Камісія паклікала прыблізна 500 чалавек у БКА, гэтулькі ж было адпушчана дамоў. А народу тады было перад Народным домам некалькі тысяч — бацькоў, жанок ды зацікаўленых асобаў.



*Сябры СБМ каля возера ў Альбярціне.*

Аднойчы партызанскі сувязны прынёс газеціну, у якой пісалася, каб людзі не слухалі немцаў ды сваіх нацыяналістаў, а ўсе ішлі ў лес. За пару дзён некалькі чалавек так і зрабілі, нават пайшлі ў лес два перакладчыкі з СД. Начальнік СД са сваёй дружынай пайшоў нібы іх шукаць, але нехта ў бліжэйшым лесе каля Слоніма яго забіў. На следства гэтай справы прыехаў большы начальнік з Баранавіч. Потым былі арышты і вывазы, шмат загінула і нявінных людзей…[7]

●***Аляксандр Асіпчык***

*[1] Маецца на ўвазе Народны дом, які быў пабудаваны ў Слоніме ў 1900 годзе. Цяпер на гэтым месцы знаходзіцца драматычны тэатр. — Гэтая і іншыя заўвагі Сяргея Чыгрына.*

*[2] Язэп Стаброўскі (1870 — 1968) — заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея.*

*[3] Адам Станкевіч (1891 — 1949) — беларускі рымска-каталіцкі святар, грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст. У 1938 годзе польскія ўлады яго, як беларускага патрыёта, на 5 гадоў выслалі з Вільні ў Слонім. У пасляваенны час быў арыштаваны і памёр у савецкім канцлагеры.*

*[4] Саюз беларускай моладзі (СБМ) — маладзёжная арганізацыя падчас нямецкай акупацыі ў 1943-1944 гадах.*

*[5] Міхась Ганько (1918 — ?) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч.*

*[6] Беларуская краёвая абарона (БКА) — вайсковае фарміраванне, створанае ў генеральнай акрузе “Беларусь” у 1944 годзе.*

*[7] На гэтым успаміны Аляксандра Асіпчыка спыняюцца і больш у дадатку “Думкі й погляды” не друкаваліся.*

# Як чыноўнік заняў памяшканне музея ў Слоніме

Гісторык Аляксандр Гужалоўскі ў адной з сваіх публікацый* цытуе дакумент з Нацыянальнага архіву Беларусі, у якім згадваецца лёс слонімскага краязнаўчага музея пасля таго, як польскую ўладу змяніла савецкая. У снежні 1940 года метадыст Наркамата асветы БССР па музеях пісаў у справаздачы: “У Слоніме памяшканне, прадстаўленае музею Часовым Упраўленнем у лістападзе 1939 г. (дом фабрыканта Гурэвіча), занятае пад кватэру старшыні райвыканкама Швайнштэйна, а экспанаты музея, выкінутыя з яго старога будынку, звалены хаатычна ў двух прахадных пакоях адной з прыватных кватэр”. Такім чынам на той час музей не працаваў.

Вядома, што Арон Абрамавіч Швайнштэйн быў старшынёй Слонімскага райвыканкама ў 1940-1941 гадах. Пры ім найбольш каштоўныя экспанаты музея Стаброўскага перадалі ў Баранавічы.

●**М. І.**

**Гужаловский А. Музеи БССР в годы культурной революции. 1928 —1941 гг. // Sunkusis paveldas. Acta Museologica Lithuanica. 2015. Т. 2. С. 118.*

НЕЗАБЫЎНАЕ

# Бежанства — трагічная старонка нашай гісторыі

*Працяг, пачатак у № 6(16), 2017 г*

**Бежанцы Слонімскага павета ў Томскай губерні (1915-1916 гады)**

…33. **Бурдзь Іван С.**, з ім — 4 мужчыны і 3 жанчыны. Прыехалі з Косаўскай валасці, вёскі Булы. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

34. **Бурдзь Мак. А.**, з ім — 2 мужчыны і 3 жанчыны. Прыехалі з Косаўскай валасці, вёскі Булы. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

35. **Бурын Васіль Якаўлевіч**, 70 гадоў. Прыехаў з Косаўскай валасці з вёскі Радкевічы. Часова спыніўся ў Томскім павеце ў сяле Багародскае.

36. **Бута Ан.** З сям'ёй. Прыехалі з вёскі Акунінава. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

37. **Бучын Цімафей Сцяпанавіч**, з ім — 2 мужчыны і 2 жанчыны. Прыехалі з Лючнеўскай валасці, вёскі Меляховічы. Часова спыніліся ў Каінскім павеце, вёсцы Ванічкіна.

38. **Валюк Алд. Ант.**, 45 гадоў, жонка Еўдакія, 37 гадоў, дзеці: Алд., 14 гадоў, Рыг., 12 гадоў, Ант., 9 гадоў, Мар., 5 гадоў. Прыехалі з вёскі Міжэвічы. Часова спыніліся ў Барнауле.

39. **Васілеўская Соф'я Давыдаўна,** 30 гадоў, дзеці: Вольга, 10 гадоў, Пётр, 7 гадоў, Ганна, 5 гадоў. Прыехалі з вёскі Боркі. Часова спыніліся ў Марыінску.

40. **Васілевіч Яфрэм Сямёнавіч,** з ім — 1 мужчына і 1 жанчына. Прыехалі з Борыцкай валасці. Часова спыніліся ў Бомскім павеце, вёсцы Турнаева.

41. **Вількоўскі Лука Іванавіч**, 22 гады, сястра Насця, 24 гады. Прыехалі са Слонімскага павета. Часова спыніліся ў Томскім павеце ў вёсцы Калаганава.

42. **Віннічак Іван Фаміч**, з ім — 2 мужчыны і 3 жанчыны. Прыехалі са Слонімскага павета. Часова спыніліся ў Багатол.



43. **Віннічак Максім Фаміч**, з ім — 3 мужчыны, 6 жанчын. Прыехалі са Слонімскага павета. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

44. **Власевіч Марк Іванавіч**, 50 гадоў, жонка Марфа, 50 гадоў, дзеці: Ганна, 22 гады, Антон, 13 гадоў. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце ў вёсцы Баранава.

45. **Вясецкі Аф. Канстанцінавіч**, з ім — 4 мужчыны і 5 жанчын. Прыехалі з вёскі Варонічы. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

46. **Вышкевіч Рыгор Фёдаравіч**, жонка Наталля, дзеці: Гр., 8 гадоў, Мар., 4 года, Вольга, 1,5 года. Прыехалі з вёскі Варонічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце ў пасёлку Быкоўскі.

47. **Валынец Вера** з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Галынка. Часова спыніліся ў горадзе Ніжні Нікалаеўск.

48. **Валынец Уладзімір** з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Галынка. Часова спыніліся ў горадзе Ніжні Нікалаеўск.

49. **Валынец Фёдар** з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Галынка. Часова спыніліся ў горадзе Ніжні Нікалаеўск.

50. **Варабей Варвара Антонаўна**, з ёй яшчэ 3 чалавекі. Прыехалі з Косаўскай валасці, вёскі Старахамутоўцы. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

51. **Вальшкевіч Тарас О.**, 42 гады, жонка Ганна, 42 гады, дзеці: Люба, 17 гадоў, Ал., 14 гадоў, Ус., 12 гадоў, Фёд., 6 гадоў, Над., 4 гады. Прыехалі з вёскі Загор'е. Часова спыніліся ў Томскім павеце, пасёлку Кіракаўск.

52. **Валынец Васіль Адамавіч**. Прыехаў з вёскі Галынка. Часова спыніўся ў Бійскім павеце ў сяле Буланіхінскае.

53. **Валадашчык Пётр Мікалаевіч, Валадашчык Канстанцін Мікалаевіч.** Прыехалі з вёскі Бярдовічы. Часова спыніліся ў Бійскім павеце ў сяле Буланіхінскае.

54. **Валноў Андрэй Фёдаравіч**, 58 гадоў, жонка Д., 50 гадоў. Прыехалі з Дзятлаўскай валасці, вёскі Боцкавічы. Часова спыніліся ў Кузнецкім

павеце, сяле Нова-Бачацкая.

55. **Вутлік Міхаіл Восіпавіч**. Прыехаў з вёскі Бярдовічы. Часова спыніліся ў Бійскім павеце ў сяле Буланіхінскае.

56. **Войтка Міхаіл Восіпавіч**, 48 гадоў, жонка Ул., 35 гадоў, дзеці: Мікалай, 12 гадоў, Захар, 10 гадоў, Вольга, 7 гадоў, Міхаіл, 5 гадоў. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце ў вёсцы Зыранка.

57. **Волкаў Андрэй Фёдаравіч**, 58 гадоў, жонка Дом., 50 гадоў. Прыехалі з Дзятлаўскай воласці, вёскі Боцкавічы. Часова спыніліся ў Кузнецкім павеце, сяле Нова-Бачацкая.

59. **Гаўрыельчык Антон Максімавіч**, 55 гадоў, дзеці: Ал, 19 гадоў, Малан., 15 гадоў, Малан., 12 гадоў. Прыехалі з вёскі Акунінава. Часова спыніліся ў Змяінагорскім павеце, п/а Кур'я.

60. **Гаўрушка Васіль Сямёнавіч,** жонка Марыя, 53 гады, дзеці: Пар., 18 гадоў, Еўд., 14 гадоў, Варв., 10 гадоў, Домна, дзеці: Ал., Мак, Алс., Сяр. Прыехалі са Слонімскага павета, вёскі Сялец. Часова спыніліся ў Каінскім павеце, вёсцы Дзмітрыеўка.

61. **Гаўрушка Георгій Сямёнавіч**, жонка Фёкла, дзеці: Мік., Мар., Ос. Прыехалі са Слонімскага павета, вёскі Сялец. Часова спыніліся ў Каінскім павеце, вёсцы Дзмітрыеўка.

62. **Гаўрушка Дзмітрый Сямёнавіч**, дзеці: Апан., Соф., Ол., Мар., Нат. Прыехалі са Слонімскага павета, вёскі Сялец. Часова спыніліся ў Каінскім павеце, вёсцы Дзмітрыеўка.

63. **Галішэўскі Васіль Фр.**, 56 гадоў. прыехаў са Слонімскага павета, Быценьскай воласці. Часова спыніўся ў Бійску.

64. **Гамбар Кацярына Іванаўна,** 25 гадоў, сястра Ф., 5 гадоў. Прыехалі са Слонімскага павета, вёскі Падстарынь. Часова спыніліся ў п/а Цюхцець.



65. **Гегенія Матрона**. Прыехала са Слонімскага павета, Быценьскай воласці. Часова спынілася ў Ніжнім Нікалаеўску.

66. **Гісеня Раман Раманавіч**, 70 гадоў, жонка Мар., 73 гады, дзеці: Ів., 33 гады, Соф'я, 40 гадоў. Прыехалі з Быценскай воласці, вёскі Гнойная. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Галотнае.

67. **Гладкіх Нікіфар Клем.**, жонка Пр., 28 гадоў. цешча Алд., 60 гадоў, яе сястра Пет., 22 гады. Прыехалі са Слонімскага павета, Дзятлаўскай воласці, вёскі Буцвілавічы. Часова спыніліся ў Кузнецкім павеце, сяле Сямёнушкіна.

68. **Гаўрушка Ал. Вас.**, 30 гадоў, дачка Вольга, 5 гадоў. Прыехалі з Дабрамыслаўскай воласці, вёскі Закапачча. Часова спыніліся ў Томскім павеце, сяле Навумаўскае.

69. **Голуб Ів. Ст.**, 59 гадоў, жонка Кацярына, 58 гадоў, дзеці: Міх, 26 гадоў, Ліза, 16 гадоў. Прыехалі з Ружанскай воласці, вёскі Міколін (Міхалін?). Часова спыніліся ў Кузнецкім павеце, сяле Усць-Сасноўскае.

70. **Голуб Ос. Ст.**, 48 гадоў, жонка Ант., 44 гады, дзеці: Ол, 8 гадоў, Ан., 16 гадоў, Ант., 11 гадоў. Прыехалі з Ружанскай воласці, вёскі Міколін. Часова спыніліся ў Кузнецкім павеце, сяле Усць-Сасноўскае.

71. **Голуб Пав. Міх.**, 70 гадоў, дзеці: Як., 45 гадоў, Вера, 46 гадоў, Міх., 17 гадоў, Ів., 15 гадоў, Мік., 8 гадоў, Ефр., 12 гадоў, Алд., 4 года, Ан., 22 гады, Над., 4 месяцы. Прыехалі з Быценьскай воласці, вёскі Зарэчча. Часова спыніліся ў Томскім павеце, сяле Балотнае.

72. **Голуб Ст. Міх.**, 48 гадоў, жонка Кацярына, 47 гадоў, дзеці: Фёд., 13 гадоў, Мар., 12 гадоў, Алд., 7 гадоў, Ліза, 2 года. Прыехалі з Быценьскай воласці, вёскі Зарэчча. Часова спыніліся ў Томскім павеце, сяле Балотнае.

73. **Галенка Венд. Вас.,** з ім муж. 3, жан. 3. Прыехалі са Слонімскага павета, вёскі Калеснікава. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

74. **Галожын Іл. Іл.**, 65 гадоў, жонка Марфа, 65 гадоў, сын Фёдар, 27 гадоў. Прыехалі з вёскі Юхнавічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

75. **Галашэўскі Антон Гаў.**, 52 гады, жонка Ул., 44 гады, сын Міхась, 1 год. Прыехалі з Быценьскай воласці, вёскі Зарэчча. Часова спыніліся ў Бійску.

76. **Гарбацэвіч Якаў Фадзеевіч**, з ім муж. 2, жан. 3. Прыехалі з Дзярэчынскай воласці, вёскі Тамашы. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

●*Публікацыя* ***Сяргея Чыгрына***

*Працяг у наступным нумары*

# Аб чым маўчаць магілы




*Адна з шыльдаў з пахаванняў каля Азярніцкай царквы.*

Родны край, такія мілыя для сэрца і з маленства знаёмыя мясціны! Мне тут вядомы кожны закутак, кожная сцяжынка. Здаецца, чым яшчэ можа зацікавіць і здзівіць мая родная вёска Азярніца? Але дзеля таго, каб у звыклых рэчах убачыць нешта новае, часам трэба проста прыпыніцца і зірнуць на іх так, быццам робіш гэта ўпершыню.

Вёска Азярніца з'яўляецца цэнтрам сельскага савета. Яна знаходзіцца на захадзе Слонімскага раёна ў адлегласці 20 кіламетраў ад горада Слоніма. Азярніца ўпершыню згадваецца ў 1478 годзе ў адным з прывілеяў караля Казіміра Ягелончыка. Яна мае багатае гістарычнае мінулае, таямніцы якога, да гэтага часу захоўвае вясковы царкоўны падворак.

У цэнтры Азярніцы, на невялікім пагорку стаіць цагляная царква, якая ўзвышаецца над усёй вёскай. Яна пабудавана ў 1867 годзе, у выглядзе крыжа. Вакол царквы знаходзіцца каменная агароджа, каля якой невялічкімі групамі размяшчаюцца надмагільныя помнікі. Чытаючы надпісы на шыльдах, разумееш, што тут пахаваныя святары, якія служылі ў Азярніцкай царкве, іх родныя, а таксама немаўляты, што хутка памерлі пасля нараджэння.

Выключэннем з'яўляецца толькі магіла Азярніцкага старшыні Мацвея Міхайлавіча Макарэвіча, забітага ў 1863 годзе паўстанцамі за тое, што ён арганізоўваў сялянскія варты і своечасова папярэджваў расійскія ўлады аб з'яўленні ў гэтай мясцовасці "мяцежнікаў".

Мацвей Макарэвіч быў пахаваны на пагосце каля старой царквы. Спачатку на магіле быў усталяваны драўляны крыж, а потым тут жа, бліз яго збудавания новая цагляная царква. Чыгунны помнік з'явіўся на пахаванні толькі ў 1889 годзе. На яго ніжняй частцы адлітыя словы: "Памятник сей сооружен в 1889 году в назидание потомству по инициативе и на средства Его Высокопревосходительства Г. Виленскаго, Ковенскаго и Гродненскаго Генерал-Губернатора И.С. Каханова, при материальном содействии крестьян Чемерской волости". На верхняй частцы помніка была шыльда з словамі: "Здесь покоится прах старшины Озерницкой волости Матвея Михайловича Макаревича, повешенаго мятежниками 1 июля 1863 года за Веру, Царя и Отечество". На жаль шыльда з помніка была страчаная ў 20-30-я гады мінулага стагоддзя пры польскай уладзе.



*Магіла Азярніцкага старшыні Мацвея Макарэвіча.*

Найбольшую цікаўнасць сярод астатніх выклікае надмагільны помнік з шыльдай на польскай мове і нехарактэрным ні для праваслаўя, ні для каталіцтва крыжом. З надпісу на




шыльдзе можна зразумець, што помнік пастаўлены ўдзячнай дачкой ксяндзу Антонію Аліферовічу (Олліферовічу), які памёр у 1853 годзе ў мястэчку Азярніца на 77-м годзе жыцця. Больш за палову стагоддзя гэты святар кіраваў Азярніцкай царквой і сваім прыходам.

Як жа так? Каля праваслаўнай царквы стаіць помнік ксяндзу, які першую палову XIX стагоддзя кіраваў Азярніцкім прыходам і пры тым меў дачку, што каталіцкім святарам забараняецца! На самой справе выказванне

аб тым, што Азярніца заўжды заставалася праваслаўнай, памылковае, паколькі ксёндз Антоній Аліферовіч быў уніятам. Гэта пацвярджвае і крыж помніка, які спалучае элементы двух хрысціянскіх канфесій. Між тым, менавіта толькі ўніяцкім святарам у каталіцкай царкве дазвалялася мець сем'і.

Царкоўная унія стала спробай аб'яднаць на землях Рэчы Паспалітай праваслаўе з каталіцызмам. Яна была прынята ў кастрычніку 1596 года, у горадзе Брэсце. Праваслаўе захоўвала сваю іерархію, але прызнавала вяршэнства Папы Рымскага і каталіцкі дагматызм, і такім чынам ператваралася ў грэка-каталіцкую (уніяцкую) царкву. Да ўсяго, праваслаўе захоўвала ўсе праваслаўныя абрады, богаслужэнні і пропаведзі на царкоўна-славянскай і беларускай мовах. Уніяцтва на беларускіх землях праіснавала да 1839 года і амаль за 250 гадоў сваёй гісторыі моцна ўкаранілася ў сялянскім асяроддзі.






Антоній Аліферовіч нарадзіўся ў 1776 годзе яшчэ ў Рэчы Паспалітай. Лёс прыгатаваў для яго шмат выпрабаванняў. Яшчэ юнаком Антонію давялося назіраць, як у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай гіне яго Радзіма. У 1794 годзе ў яго сям'і нараджаецца дачка, якую ён у гонар першай жанчыны чалавецтва называе Евай. Ужо ў 1801 годзе Антоній Аліферовіч скончыў семінарыю і прыняў сан уніяцкага святара, у 25-гадовым узросце заступіў на служэнне ў Азярніцкую царкву. Разам са сваім прыходам ён перажывае выпрабаванні французска-рускай вайны 1812 года і паўстання 1831 года. На баку удзельнікаў паўстання змагаліся як рыма-каталікі, так і базыльяне (уніяты), што прымусіла расійскі ўрад звярнуць сур'ёзную ўвагу на каталіцкі ўплыў у "заходніх губернях". Пасля падаўлення паўстання пачалася планамерная падрыхтоўка да "ўз'яднання" уніятаў з праваслаўем. У перыяд з пачатку 1835-га да канца 1836 года грэка-каталіцкія святары па чарзе выклікаліся ў Літоўскую семінарыю, якая знаходзілася ў Жыровічах, для навучання праваслаўнаму абраду. За гэты час тэрмінам на два ці тры тыдні яе наведала 207 кіраўнікоў уніяцкіх прыходаў, а да канца 1838 года ўжо 1305 грэка-каталіцкіх святароў падалі свае подпісы "за ўз'яднанне з праваслаўем". Сярод іх быў і Антоній Аліферовіч. Прыняўшы ў 1839 годзе з сваім прыходам праваслаўе, ён заставаўся святаром Азярніцкай царквы да самай сваёй смерці. 52 года гэты святар разам з жыхарамі мястэчка Азярніца раздзяляў гора і шчасце, хаваў нябожчыкаў, вянчаў моладзь. А колькі немаўлят ён пахрысціў?! Сам меў, хутчэй за ўсё, толькі адну дачку. Яе магіла знаходзіцца непадалёку. На шыльдзе помніка рускай мовай напісана аб тым, што тут пахаваная дачка святара Ева Антонаўна Аліферовіч (Олліферовіч), якая памерла ў 1879 годзе і пражыла 85 гадоў. Той факт, што прозвішча гэтай жанчыны засталося нязменным, дазваляе сцвярджаць аб тым, што Ева Антонаўна так і не пабралася ні з кім шлюбам. Калі памёр бацька, ёй было 59 гадоў.

Наступным святаром Азярніцкай царквы ў 1853 годзе стаў Ніканор Іванавіч Светавастокаў. Ён прыняў кіраўніцтва прыходам ва ўзросце 20 гадоў. На жаль лёс маладога святара склаўся вельмі трагічна. Ен пражыў толькі 26 гадоў. Хутка пасля смерці Ніканора Іванавіча памірае і яго дачка Сафія. На той момант немаўляці быў 1 год. Жонцы Ніканора Іванавіча Светавастокава Аляксандры Антонаўне, якая страціла сям'ю, было ўсяго 25 гадоў. З горыччу ад гэтай страты яна пражыла да 1911 года і памерла ў узросце 77 гадоў.

У 1860 годзе настаяцелем Азярніцкай царквы становіцца Канстанцін Ануфрыевіч Каліскі. Праз тры гады пачынаецца паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, якое не абышло бокам і Азярніцу. 1 ліпеня 1863 года ў мястэчку з’явіліся паўстанцы. Яны схапілі сельскага старасту, які знаходзіўся на працоўным месцы, і ўчынілі над ім жорсткую расправу. Стараста Макарэвіч быў павешаны насупраць царквы, на браме каля дома святара Азярніцкага прыходу Каліскага. Тое самае паўстанцы хацелі зрабіць і з настаяцелем, але, дзякуй Богу, яго не было дома. Пасля падаўлення паўстання царскім ўрадам былі выдзелены сродкі на будаўніцтва ў Азярніцы новай мураванай царквы. Ужо ў 1867 годзе ўсе работы былі скончаны. Новая царква была пабудаваная на тым жа самым месцы, дзе знаходзілася старая. Канстанцін Ануфрыевіч Каліскі праслужыў у ёй аж да 1882 года, пасля чаго быў пераведзены ў Пружаны, але вельмі часта наведваў Азярніцу. У 1872 годзе на вясковым царкоўным падворку ён пахаваў свайго бацьку Ануфрыя Іванавіча Каліскага, які таксама быў святаром.

З 1882 года кіраўніком Азярніцкай царквы становіцца святар Траяпольскі. Хутчэй за ўсё, пачынаючы з гэтага часу настаяцелі Азярніцкага прыходу пачынаюць часта мяняцца, бо апошні надмагільны помнік XIX стагоддзя на царкоўным падворку датуецца 1899 годам. Ён выкананы ў выглядзе аналоя, на якім ляжыць расчыненая кніга з радкамі з Евангелля. Помнік стаіць на магіле настаяцеля Азярніцкай царквы Аляксандра Данілавіча Галаўчынскага, памерлага ў 1899 годзе. У ніжняй частцы помніка знаходзіцца надпіс:”Миръ праху твоему незабвенный супругъ и добрый отецъ”.









Памятаю як у дзяцінстве мая бабуля распавядала мне аб тым, што тут пахаваны святар, які раптоўна памёр падчас набажэнства, а на кнізе выбітыя апошнія словы, якія ён паспеў прачытаць. На момант смерці яму было 49 гадоў.

Цішыня і спакой пануе на царкоўным падворку ў будні дзень. Тут быццам прыпыняецца час. Нават лёгкі ветрык, ледзь чутна пакалыхваючы летнюю траву, на імгненне замірае. Ён не хоча перашкаджаць, яму і самому цікава паслухаць аб чым маўчаць магілы.

●***Міхаіл Шуляк***

# У 1806 годзе рускія гвардзейцы абакралі слонімскага ювеліра

У студзені 1806 года з Аўстрыйскай імперыі ў Пецярбург праз Беларусь вяртаўся Кавалергардскі полк рускай арміі. Гэта была гвардзейская цяжкая кавалерыя. Яна брала ўдзел у прайгранай бітве з войскамі Напалеона пад Аўстэрліцам 20 лістапада 1805 года, панесла цяжкія страты (40% афіцэраў і траціна ніжэйшых чыноў, а таксама коней). 11 студзеня полк прыбыў у Брэст-Літоўск, дзе адпачываў некалькі дзён. 15 студзеня ён рушыў далей, на Мінск. У вайскоўцаў не было цёплага адзення, яны хварэлі. Зразумела, што іх маральны і фізічны стан быў не лепшым.

У Слоніме Кавалергардскі полк на нейкі час затрымаўся. У кнізе “Полки русской армии. Кавалергарды” (Москва: Воениздат, 1997) згадваецца здарэнне, якое адбылося тады ў нашым горадзе. Двое шэрагоўцаў скарысталіся момантам і абакралі лаўку мясцовага ювеліра, яўрэя. Магчыма, спадзяваліся, што іх не знойдуць, а пасля таго, як полк рушыць далей, шукаць увогуле перастануць. Аднак памыліліся. Пацярпелы аператыўна звярнуўся ў справе крадзяжу да вайсковага камандавання. А камандаваў палком у той час генерал-маёр Мікалай Дэпрэрадавіч. Скрадзеныя рэчы, грошы адшукалі і вярнулі ювеліру. Падчас следства высветлілася, што пра ўчынак шэрагоўцаў ведалі і дапамагалі ім схаваць скрадзенае унцер-афіцэр і трое шэрагоўцаў. Усіх іх аддалі пад суд. Якое пакаранне атрымалі вайскоўцы, невядома. Найхутчэй яны адбывалі спагнанне падчас доўгага і цяжкага маршу на Пецярбург, куды полк дабраўся толькі ў пачатку красавіка.


*koof.ru*

Цікава, што згаданае здарэнне ў Слоніме адбылося ў той час, калі ў нашым горадзе “хуліганіў” граф Фёдар Талстой (“Амерыканец”), пра якога мы распавядалі ў мінулым нумары “СК”.*

●***Генадзь Гурскі***

**Гурскі Г. У 1805 годзе граф Фёдар Талстой (“Амерыканец”) трапіў пад арышт у Слоніме // Слонімскі край, 2017, № 6(16). Чэрвень. С. 20.*

# Гісторык і архівіст з Шылавічаў

5 жніўня споўнілася б 70 гадоў Віталю Скалабану, вядомаму беларускаму гісторыку, архівісту, грамадскаму дзеячу. Ён нарадзіўся ў Шылавічах, але пражыў на Слонімшчыне вельмі мала.* Сваякоў тут у яго не было, таму і сувязь з малой радзімай абарвалася. Але кантакты з мясцовымі краязнаўцамі ён падтрымліваў.

Скалабана не стала 20 жніўня 2011-га. Шмат планаў, у тым ліку і па краязнаўстве, ён на жаль не паспеў рэалізаваць.


*artmuseum.by*

●***СЁ***

**Гл. наступную публікацыю: Віталь Скалабан: “Шкадую, што ні разу больш так і не пабыў на Слонімшчыне” // Слонімскі край, 2016, № 7. Жнівень. С. 12.*

**“Слонімскі край” можна чытаць на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат”: http://kamunikat.org/**

**“Слонімскі край”** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару ***Сяргей Ёрш.***

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**